**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 10 (831) 10 сакавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**Вясна прыйшла!**

*Фота Ул. Скрабатуна.*





**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023



### Глыбоцкі раён

# Знак бяды

■ Чэслаў Якубовіч.

**Можна колькі заўгодна сцвярджаць аб адсутнасці крызіса ў краіне, аднак цяпер нават вядучыя раней айчынныя вытворцы прадуктаў харчавання апынуліся ў цяжкім становішчы.**

У структуры абласнога дзяржаб'яднання "Мясамалочныя прадукты" зараз працуюць 4 буйныя мясакамбінаты, і ўсе яны сталі стратнымі, значна скарацілі летась выпуск каўбас, іншых мясапрадуктаў. Асабліва непакоіць кіраўніцтва вобласці становішча спраў на ордэна "Знак Пашаны" Глыбоцкім мясакамбінаце, які працуе са стратамі на працягу чатырох апошніх гадоў. Перад гэтым у райцэнтры на старым месцы паўстала фактычна новая фабрыка мяса, больш 30 млрд. рублёў патрацілі на рэканструкцыю і тэхпераўзбраенне мясаперапрацоўчага комплекса. Глыбоцкія 300 найменняў каўбас, паштэтаў, пельменяў, фаршаў, вэнджаных прадуктаў і паўфабрыкатаў хуткага прыгатавання былі добра вядомыя далёка за межамі рэгіёна. Аднак, вытворчасць мяса ў гаспадарках падае, вытворчыя магутнасці ў глыбачан і іх калег не загружаны цяпер, а пакупнікі прыкметна зб'беднелі. У выніку ў перапрацоўшчыкаў стала не хапаць абаротных сродкаў, з'явіліся даўгі, высокая закрэдытаванасць па крэдытах. Адчуваюць зараз падобныя цяжкасці і іншыя прадпрыемствы галіны на Глыбоччыне. Знізіліся аб'ёмы вытворчасці і на флагмане, Глыбоцкім МКК, які таксама завяршыў мінулы 2015 год са стратамі. Са стратамі спрацаваў Падсвільскі вінзавод, і ягоны заводпартнёр у Полацку. У склад ААТ "Віцебскхарчпрам" уваходзіць дагэтуль і Глыбоцкі кансервавы завод "Купцовъ", які выпускаў зялёны гарошак, сокі ў тэтрапакетах. Аднак, гэта прадпрыемства стала банкротам і цяпер праходзіць увогуле стадыю ліквідацыі.

### Браслаўскі раён

# Жыццё даражэй любога ўлову

■ Кастусь Александровіч

**Штогод напрыканцы зімы спецыялісты папярэджваюць адчайных рыбакоў аб імклівым разбурэнні ледзянога покрыва і аб вялікай нябяспецы ў такі час выходзіць на вадаёмы.**

Аднак, па-ранейшаму знаходзяцца людзі, якія гэта ігнаруюць, што і прывяло днямі ў выхадныя да чарговай трагедыі ў Браслаўскім раёне. Прычым сведкамі гэтага здарэння маглі быць многія гараджане, паколькі ўтапіўся аматар зімовай рыбалкі на вялікім возеры Дрывяты, высокія пагоркі якога агібаюць цэнтральную частку старажытнага азёрнага горада. Выратавальнікам райаддзела МНС паведамілі аб знікненні мужчыны пад вадой у 300 метрах ад берага іншыя рыбаловы. Яны ўбачылі, як іх калега раптоўна праваліўся ў палонку і больш не паказваўся над ледзяной вадой. Прыйшлося дадаткова выклікаць байцам МНС сваіх калег з вадалазна-выратавальнай службы мясцовага таварыства выратавання на вадзе. Вадалазы аператыўна дасталі з-пад лёду цела загінуўшага 54-гадовага жыхара вёскі Разета. Пры дапамозе спецыяльных санак-валакуш труп хуценька даставілі на бераг, а жыццё чалавека абарвалася так недарэчна, бо ніколі самы нават буйны ўлоў не будзе апраўданы такім чынам. Шкада, што многія суайчыннікі не разумеюць гэтага, паколькі ў азёрным краі перад гэтым загінуў яшчэ адзін гора-рыбалоў на возеры Струста і таксама непадалёку ад берага. За пару тыдняў да трагедыі ў райцэнтры вадалазы дасталі са дна возера Чорнае ў Полацкім раёне труп мясцовага дачніка, які таксама не ўстрымаўся ад спакусы палавіць рыбкі на тонкім лёдзе.

### Пастаўскі раён

# То ўзлёт, то падзенне

■ Станіслаў Раманчук.

**У прамысловых прадпрыемствах, як і ў людзей, бываюць перыяды росквіту, сапраўдных дасягненняў і таксама значных цяжкасцяў.**

Вось і ў Паставах у недалёкім мінулым працаваў сапраўдны завод - гігант саюзнага маштабу з 2 тысячамі рабочых і служачых. Аб гэтым узгадвалася днямі ў мясцовым Доме культуры, дзе ўрачыста адзначылі 40-годдзе УП "завод Беліт". Яго дзейнасць пачалася са стварэння філіяла Вільнюскага завода радыёкампанентаў па выпуску трансфарматараў для тэлевізараў у закрытым у той час касцёле, да якога прыбудавалі вытворчы корпус. Неўзабаве ў горадзе на плошчы 11,5 гектараў паўстаў новы вялікі завод, які стаў пастаўшчыкам камплектуючых для савецкіх тэлезаводаў. На прадпрыемстве мелася свая сталовая з 3-мя абедзеннымі заламі, кулінарыя, медпункт, кафэтэрый, спорткомплекс, завод пабудаваў 240 кватэр, буйны дзіцячы сад-яслі. Пасля распаду СССР прадпрыемства ледзь не распалася, але выжыла, а 10 гадоў назад упершыню ў Беларусі пачало выпускаць СВЧ-печы маркі "Гарызонт", а потым іншую бытавую тэхніку і сучасныя тэлевізары. Яно і цяпер уваходзіць у аднайменны холдынг, які перажывае крызіс. Аднак, пастаўчане ў чарговы раз выжылі, бо сарыентаваліся і запусцілі вытворчасць тэхнічнай сал–феткі. Толькі летась было створана 50 дадатковых працоўных месцаў і 15 – ужо сёлета. Цяпер штодзень завод адгружае спажыўцам да двух фур гэтай прадукцыі, 70% якой ідзе на экспарт у Расію і Іспанію, іншыя дзяржавы ЕС. На чарзе выпуск тэрмавойлаку і тэрмаваты, акрамя таго, завод цяпер вырабляе яшчэ тратуарную плітку і розныя віды металаканструкцый.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 10.03.16 | | | | Пятніца 11.03.16 | | | | Субота 12.03.16 | | | | Нядзеля 13.03.16 | | | | Пан. 14.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +3 | +6 | +7 | +6 | +5 | +5 | +5 | +4 | +2 | +1 | 0 | -1 | -1 | 0 | -1 | -2 | -2 | -1 |
| Ціск | 752 | 752 | 752 | 754 | 754 | 754 | 753 | 754 | 755 | 755 | 756 | 758 | 759 | 760 | 759 | 760 | 761 | 761 | 760 |
| Вецер м/сек | 2 С-В | 3 С-В | 1 С | 1 В | 1 В | 3 С-В | 2 С-В | 2 С-В | 2 С-В | 5 С-В | 5 С-В | 5 С-В | 3 С-В | 5 С | 5 С | 4 С | 2 С-В | 3 С | 2 С-З |
| Вільготнасць | 92 | 94 | 94 | 92 | 93 | 95 | 95 | 92 | 93 | 93 | 69 | 73 | 77 | 77 | 62 | 78 | 80 | 69 | 65 |

# Аб самым надзённым

## ГІСТАРЫЧНАЯ СУСТРЭЧА ДВУХ УПЛЫВОВЫХ ЦАРКОЎНЫХ ІЕРАРХАЎ БУДЗЕ СПРЫЯЦЬ АДЗІНСТВУ ХРЫСЦІЯН І ЎМАЦАВАННЮ МІРУ Ў СВЕЦЕ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**На шчасце, абставіны мяняюцца, і пасля нядаўняй сустрэчы на Кубе Папы Францішка з Патрыярхам Кірылам падобная пастырская паездка з Рыму да беларускіх каталікоў стала настолькі блізкая, як ніколі перад гэтым.**

Пасля змрочных часоў ваяўнічага бальшавіцкага атэізму ўжо ў незалежнай Беларусі адраджэнне ранейшых хрысціянскіх традыцый ідзе найбольш моцна і паступальна. Наша краіна можа служыць прыкладам для астатніх, бо мірна ўжываюцца, і нават супрацоўнічаюць, паміж сабой розныя канфесіі вернікаў, галоўныя святы (Вялікдзень і Божае нараджэнне) на дзяржаўным узроўні адзначаюць вядучыя з іх праваслаўная і каталіцкая. Многіх беларусаў аб'ядноўвае вера ў Госпада нашага, павага да агульнай Евангельскай гісторыі, на якіх будуюцца сямейныя хрысціянскія каштоўнасці – найвялікшы скарб для любога грамадства.

Да прыкладу, у нашай Віцебскай вобласці сярод насельніцтва пераважаюць праваслаўныя, але і шмат, асабліва ў заходніх раёнах, каталіцкіх прыхадаў, яны складаюць пятую частку ад агульнай колькасці хрысціян у Прыдзвінні. У нас не сцвярджаюць, у адрозненне ад той жа Расіі, што іх землі – выключная кананічная тэрыторыя Рускай Праваслаўнай Царквы. На Беларусі, дзякуй Богу, не можа быць такіх прыкрых інцыдэнтаў, які здарыўся з былым каталіцкім біскупам Сібіры Ежы Мазурам. Гэты іерарх служыў Госпаду і людзям за Уралам 4 гады, але вясной 2002 года ў яго забралі ў аэрапорце пашпарт і аб'явілі, што яму заборонены ўезд на расійскую тэрыторыю. Ватыкан тады спешна накіраваў служыць туды, дарэчы, былога глыбоцкага святара епіскапа Кірылу Клімовіча.

Хоць Маскоўскі патрыярхат здаўна прэтэндуе на выключную ролю ў сусветным праваслаўі, хрысціянстве, і гэта гісторыя даўняя, але яна павучальная. Да нядаўняга часу розныя адыёзныя бацюшкі і, асабліва іх іерархі, абвінавачвалі каталіцкіх святароў у празелітызме, перацягванні ў сваю паству нястойкіх духам праваслаўных. У значнай ступені, шчыра кажучы, з-за гэтага раней ні адбыўся пастырскі візіт у Беларусь былога Папы Рымскага Яна Паўла ІІ, бо менавіта РПЦ адмоўна ставілася да такой паездкі. На шчасце, абставіны мяняюцца, і пасля нядаўняй сустрэчы на Кубе Папы Францішка з Патрыярхам Кірылам падобная пастырская паездка з Рыму да беларускіх каталікоў стала настолькі блізкая, як ніколі перад гэтым.

Сама ж двухгадзінная гістарычная сяброўская гутарка ў кубінскай сталіцы стала адной з важнейшых сусветных падзей. Некаторыя параўноўваюць яе нават з высадкай першага чалавека на паверхню Месяца. Праўда, будзе памылкай лічыць такую сустрэчу першай на працягу многіх стагоддзяў. Рымскія пантыфікі Бенедзікт XVI і Павел VI, як вядома, мелі сустрэчы з Патрыярхам Канстанцінопальскім Фарфаламеем і раней – з Патрыярхам Афінагорай. Важнейшае значэнне падзеі на Кубе ў тым, што яна можа дапамагчы прадухіліць вялікую Сусветную вайну на фоне моцнага кровапраліцця ў залітай агнём братазабойчай бойні ў Сірыі.

Сапраўды, хрысціян зараз павінны турбаваць не ранейшыя гістарычныя спрэчкі і рознагалоссі па царкоўных канонах, а тое, што нашых адзінаверцаў праследваюць і забіваюць, як "няверных" у мусульманскіх дзяржавах, знішчаюць хрысціянскія храмы і нападаюць на нашы духоўныя каштоўнасці. Падпісаная сумесная дэкларацыя на Кубе – таксама крок наперад па адстойванню каштоўнасцяў традыцыйнай сям'і, як найперш саюзу паміж мужчынам і жанчынай. З іншага боку, і маскоўскім іерархам проста нявыгадная зараз пэўная ізаляцыя Расіі ў свеце, уведзеныя супраць рускіх адчувальныя эканамічныя санкцыі.

Шчыра кажучы, у самой Расіі, у адрозненне ад нас, не ўсе праваслаўныя станоўча аднесліся да гэтай сустрэчы іерархаў, хоць на ёй ні слова не гаварылася аб магчымым аб'яднанні хрысціян у адной веры, аб іншых пытаннях веравучэння і іншых дагматах. Галоўнае, што было сказана ў Гаване, усе мы з'яўляемся братамі, а не сапернікамі адзін аднаму і можам супрацоўнічаць, як бы гэтага не хацелася ў свецкім жыцці вядомым палітыкам у свеце. Апошнія свае рознагалоссі цяпер зноў сталі вырашаць, прымяняючы зброю і сілу, забыліся пра галоўны хрысціянскі пастулат "не забівай".

Гэта хоць і гістарычная, але фактычна першая прыватная сустрэча двух паважаных рэлігійных сусветных дзеячаў была кароткай, але яна дала таксама надзею на дасягненне міру ў шматпакутнай Украіне, і выкананне там Мінскіх пагадненняў. Важна, што і Патрыярх Кірыл не бачыць цяпер перашкод для новых такіх сустрэч у будучым. Царкоўныя дзеячы зрабілі таксама яшчэ шэраг важных заяў па актуальных праблемах сучаснага грамадства. Свет цяпер мяняецца, главы бальшасці дзяржаў з'яўляюцца веруючымі людзьмі, наведваюць храмы, і таму яны павінны слухаць і сваіх духоўных лідараў. Сведчаннем перамен стала і тое, што галоўная хрысціянская святыня Парыжа – ікона з часцінкай цярновага вянка Ісуса Хрыста, будзе некалькі месяцаў знаходзіцца на беларускай зямлі.

## Дзень за днём

**Падзенне айчыннай эканомікі ў студзені паскорылася на 4,3%. Урад Беларусі прыгразіў нядбайным дырэктарам пазбавіць іх прадпрыемствы дзяржпадтрымкі. Прыбыткі беларускіх прадпрыемстваў знізіліся больш чым на 40%. Упершыню ў Беларусі адносіны з ЕС і ЗША сталі лепшымі, чым у Расіі. А. Лукашэнка даручыў правiрыць гатоўнасць войск тэрытарыяльнай абароны Беларусі. З 1 кастрычніка банкаматы пачнуць выдаваць грошы толькі новага ўзору без манет. Выраслі тарыфы на допуск да дарожнага руху, аплата за экзамены ў ДАІ – у 10 разоў. Падаражэлі абмен і атрыманне пашпартоў. Новыя тарыфы ЖКГ найбольш балюча ўдарылі па адзінокіх пенсіянерах.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** На няпростых перамовах кіраўніцтва ЕС дамовілася з Англіяй, што брытанцы застануцца ў Еўрасаюзе, але яны атрымліваюць у садружнасці асаблівы статус.

**Сірыя.** Глава арганізацыі "Урачы без граніц" Джоан Лю заявіла, што авіяўдары Расіі і абстрэлы войск Б. Асада знішчылі поўнасцю 12 бальніц падчас 94 атак на медыцынскія установы.

**Турцыя**. Прэзідэт Р. Эрдаган заявіў, што яго краіна мае права праводзіць ваенныя аперацыі ў Сірыі і ў іншых месцах, дзе базіруюцца варожыя тэрарыстычныя групоўкі.

**ЗША.** Савет дырэктараў Міжнароднага валютнага фонду пераабраў францужанку Крысцін Лагард на пасадзе главы арганізацыі яшчэ на 5 гадоў, яна праявіла ўменне плённа кіраваць працай фонда.

**Украіна**. Пасля распаду правячай кааліцыі і няўдалай спробы адстаўкі прэм'ер-міністра краіне пагражае роспуск парламента і датэрміновыя выбары ў Вярхоўную раду.

**Балівія.** На рэферэндуме грамадзяне краіны (больш 60%) прагаласавалі супраць перавыбрання дзеючага прэзідэнта Эво Маралеса на пасаду на чацвёрты тэрмін.

**Ватыкан.** На плошчы св. Пятра Папа Рымскі Францыск заклікаў кіраўнікоў дзяржаў адмяніць смяротнае пакаранне, але і палепшыць умовы ўтрымання вязняў у турмах.

**КНДР.** У акружэнні "правадыра" Кім Чэн Ына з'явіўся 4-ты па ліку начальнік Генштаба Лі Мён Су, за чатыры гады ў краіне знішчылі ўжо 70 вышэйшых службовых асоб.

**Пакістан.** На поўначы краіны ў правінцыі Ціарза ісламскія экстрэмісты ўзарвалі ноччу пачатковую школу для дзяўчынак, на шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Англія.** Міхаіл Ходаркоўскі пацвердзіў, што ніякіх асабістых абавязацельстваў перад Пуціным у яго няма, як пра гэта хлусіць Крэмль, мы з ім проста палітычныя праціўнікі.

**Венесуэла.** Прэзідэнт М. Мадура ў 10 разоў падняў цэны на бензін, дэвальвіраваў нацыянальную валюту, ва ўмовах надзвычайнага эканамічнага становішча рост цэн будзе 720%.

**Польшча.** Былы прэзідэнт Лех Валенса пацвердзіў, што не супрацоўнічаў са спецслужбамі ПНР, але ў маладосці здзейсніў памылку, хоць і ніяк не даносіў.

**Расія.** Экс-прэзідэнт СССР М. Гарбачоў параіў кінарэжысёру М. Міхалкову супакоіцца, займацца сваёй справай і не лезці ў палітыку, каб вар'ятаў не было ў жыцці людзей.

**Германія.** Вядомы 76-гадовы расійскі журналіст А. Піянткоўскі пакінуў Расію з-за сур'ёзных пагроз забойства пасля напісання шэрагу смелых і праўдзівых артыкулаў.

**Расія.** Уласніка другога па велічыні аэрапорта ў РФ "Дамадзедава" Д. Каменшчыка арыштавалі і адправілі пад дамашні арышт, хоць пракуратура не знайшла яго віны.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Паляпшэння эканамічнай сітуацыі, як заявіў аналітык А. Паратнікоў, у бліжэйшай перспектыве не прадбачыцца, застаецца даводзіць простым людзям пра ваенныя пагрозы.

**Астравец.** Другая запар мяккая зіма дапамагла звыш 4 тысячам будаўнікоў весці па графіку работы па ўзвядзенню першага энергаблоку будучай АЭС вышынёй 167 метраў.

**Мінск.** Прэм'ер-міністр А. Кабякоў пацвердзіў, што летась Беларусь не выканала 5 з 9 важнейшых параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця, кепскія справы ў абласцях.

**Лоеў.** У райцэнтры памёр ад інфаркту 43-гадовы вадзіцель пасля трохгадзіннага сядзення ў чарзе на прыём да ўрача-тэрапеўта райбальніцы, хоць у яго быў талон №2.

**Мінск.** За граніцай многае танней таму, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, што там эканоміка эфектыўней, мы збяднелі сур'ёзна, бо скончыліся шчодрыя субсідыі з Масквы.

**Кобрын.** На мясцовую птушкафабрыку вярнулі 300 тысяч яек, гэту партыю забракаваў Рассельгаснагляд на пункце пропуску ў Брянску і не пусціў у Маскоўскую вобласць.

**Мінск.** Зняцце санкцый ЕС, як папярэдзіў доктар палітычных навук П. Усаў, ніяк не адаб'ецца на дабрабыце беларусаў, Беларусь была і застанецца прыдаткам Расіі.

**Магілёў.** Падатковая інспекцыя правяла пазапланавую праверку дарагога спа-салона прыгажосці і забрала з камп'ютара канфідэнцыйную інфармацыю пра ягоных кліентаў.

**Мінск.** На тэлеканале "Беларусь 1" памочнік прэзідэнта па эканоміцы К. Руды заявіў, што сусветнага крызісу няма, у краіне трэба змяніць сістэму кіравання, ісці на рэформы.

**Чачэрск.** Суд пакараў 41-гадовую жыхарку райцэнтра 1,5 гадамі турмы за падпал на глебе рэўнасці ў лазні каханкі свайго мужа, у якой было абпалена 18% скуры цела.

**Мінск.** Эканаміст Я. Раманчук запытаўся ў А. Лукашэнкі, калі падзенне за год ВУП на 4%, у доларах – на 21,5 млрд., экспарту – на 26% – не крызіс, што тады ён называе крызісам

**Магілёў.** Эканамічны суд прызнаў банкрутам старэйшы завод горада "Строммашына", ён стаў неплацежаздольным, звольніць значную частку ІТР і дапаможнага персаналу.

**Мінск.** Пасля гадзіннай забастоўкі на домабудаўнічым камбінаце пабыву, супакоіў рабочых і паабяцаў калектыву дапамогу ў суме 1 мільярд рублёў глава Фрунзенскага раёна.

**Мінск.** Драматург А. Курэйчык заявіў, што нармальна працуецца ў Расіі з адэкватнымі людзьмі, але сярод большасці народу там з-за прамыўкі мазгоў імперыялістычная гарачка.

**Уручча.** У абноўленым Палацы спорту А. Лукашэнка заявіў заслужанаму трэнеру СССР С. П. Мірановічу, што будзеце гуляць, як хакеісты, – выжывем з краіны.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# «Вольных мастакоў» без спецыяльнага сертыфіката Мінкульта прыраўняюць да дармаедаў



■ NN.BY

**Для пацверджання статусу творчага работніка неабходна будзе звярнуцца ў экспертную камісію, створаную пры Міністэрстве культуры. Гэта прапісана ў праекце Кодэкса Беларусі аб культуры, паведаміла намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы Наталля Кучынская.**

Паводле слоў дэпутата, падчас дапрацоўкі праекта дакумента да другога чытання вяліся доўгія дыскусіі наконт таго, якім чынам будзе пацвярджацца статус творчага работніка для грамадзян, якія не знаходзяцца ў творчых саюзах.

«Гэта мае на ўвазе выдачу спецыяльнага сертыфіката. Пытанне актуалізаванае ў сувязі з прыняццем у Беларусі дэкрэта аб сацыяльным утрыманстве, у якім раскрываецца палажэнні аб удзеле грамадзян у фінансаванні дзяржаўных выдаткаў. Грамадзянін, які пацвердзіў статус творчага работніка, з'яўляецца ўдзельнікам фінансавання дзяржаўных выдаткаў», – патлумачыла Наталля Кучынская.

Такім чынам, у праекце Кодэкса аб культуры прапісана, што статус творчых работнікаў, якія з'яўляюцца членамі саюзаў, будуць пацвярджаць гэтыя саюзы. А вось вольныя мастакі павінны будуць звяртацца ў экспертную камісію, створаную пры Міністэрстве культуры. Гэтая камісія будзе ацэньваць іх творы і прымаць рашэнне аб выдачы ці нявыдачы сертыфікатаў.

Пры гэтым вызначаныя крытэрыі ацэнкі. Напрыклад, твор павінен з'яўляцца прынцыпова новым, самастойным вынікам інтэлектуальнай дзейнасці. Яго мастацкі ўзровень павінен адпавядаць прафесійнаму. Што тычыцца музычных і друкаваных твораў, яны таксама павінны на працягу апошніх трох гадоў (не менш за два разы на год) публікавацца, публічна выконвацца або іншымі спосабамі даводзіцца да ўсеагульнага ведама.

«Сертыфікат, выдадзены творчаму работніку, можа быць ануляваны»,– заўважыла парламентарый. Падставай для гэтага будзе служыць рашэнне суда, якое сведчыць, што чалавек у рэчаіснасці не з'яўляецца аўтарам (выканаўцам) твораў літаратуры і мастацтва.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за зніжэння аб'ёмаў вытворчасці ў гаспадарках вобласці заводы канцэрна "Мясамалочныя прадукты" па перапрацоўцы мяса загружаны цяпер толькі на 29,5%.

**Наваполацк.** Пасля памілавання і выхаду з калоніі экс-старшыня канцэрна "Белнафтахім" У. Волкаў узначаліў дырэкцыю ўзводзімых аб'ектаў мясцовага НПЗ.

**Верхнядзвінск.** На выставе "Аграферма" у Маскве мясцовае ААТ "Інвет" паказала сваю навінку – модульныя разборныя клеткі для цялят, выраблены па канадскаму ўзору.

**Паставы.** Ваенны аддзел абласной пракуратуры распачаў дзве крымінальныя справы па факту нестатутных адносін у адной з воінскіх часцей мясцовага гарнізона.

**Новалукомль.** Арандатар мясцовага возера пасля серыі акцый пратэсту рыбакоў знізіў кошт пуцёвак на платную рыбалку для гараджан да 40 тысяч рублёў у месяц.

**Віцебск.** Вярхоўны суд Беларусі пакінуў пад вартай былога гендырэктара бройлернай фабрыкі А. Шарэйку, пры ёй фабрыка квітнела, хоць і купляла дарагія кармы за мяжой.

**Балбасава.** У памяшканні былой афіцэрскай сталовай акрамя формы для ваенных шчвакі фірмы "Саюзспецаснашчэнне" асвоілі выпуск заплечнікаў больш 80 найменняў.

**Бешанковічы.** На месцы расстрэлаў ахвяр мясцовага гетта сабраліся ўшанаваць памяць больш тысячы загінулых прадстаўнікі яўрэйскіх абшчын Беларусі і бліжняга замежжа.

**Орша.** У раённым цэнтры арыштавалі за згвалтаванне 35-гадовага раней судзімага ўраджэнца вёскі Дзяцель, міліцыя правярае датычнасць яго да падобных злачынстваў у Мінску.

**Віцебск.** У мікрараёне Білёва запрацавала 5-я па ліку каталіцкая святыня – часовая капліца прыхода св. Уладзіслава, пры ёй неўзабаве пачнецца будаўніцтва касцёла.

**Шаркаўшчына.** Суд пакараў штрафам у суме 10,5мільёна рублёў вясковую пенсіянерку, якая скрала пашпарт суседкі, каб атрымаць на яе імя крэдыт 3 мільёна ў Глыбоцкім раёне.

**Талачын.** Па падазрэнню ў збіцці і забойстве дарослага мужчыны арыштавалі 17-гадовага жыхара райцэнтра, ён піў з ахвярай ля вакзала, абрабаваў, а потым кінуў пад поезд.

**Глыбокае.** На выставе "Прафтур-2016" у сталічнай гасцініцы "Турыст" раённае аб'яднанне прафсаюзаў узнагародзілі за выхад у паўфінал конкурса "РБ у новым аблічы"

**Паставы.** Вучань СШ №2 Антон Клянцэвіч на працягу трох тыдняў па праграме маладзёжнага лідарства пабываў у ЗША ў штаце Невада, Канзас-Сіці і Вашынгтоне.

**Віцебск.** Амаль за 5 месяцаў да пачатку XXV фестываля "Славянскі базар" пачалі продажу білетаў на канцэрты, яго госцем пасля перапынку стане зорная сям'я Алы Пугачовай.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

**Яўстафій Жук, колішні сусед аўтара гэтага апавядання, некалі казаў:**
**"У Глыбокім, на сцяне дома, немцы павесілі вялікі карыкатурны плакат... Жамойты (сённяшнія літоўцы) паміж Глыбокім і Паставамі закопваюць памежныя слупы з надпісам "Lietuva", а беларусам пофіг, што тым часам робіцца з іх тэрыторыяй – яны ў кустах гоняць самагон!"**

# Самагон пушчанскі ва ўсе часы – самы славуты глыбоцкі трэнд?

■ **Уладзімір Скрабатун**

Памятаю, у годзе мо 1978-м, стаю на пероне аўтавакзала "Усходні" ў Мінску…

– ***Ну й куды мы едзем?*** – раптам, нечакана, пытае мужчына побач.

– У Глыбокае,– кажу.

– ***Глыбокае! Галубіцкая пушча! Ліпава! Самагон! Класны самагон!*** – з захапленнем усклікае будучы спадарожнік.

Наогул, што такое Глыбокае ў свядомасці тагачасных мінчукоў і жыхароў Беларусі?

– ***Глыбокае? – гэта там, недзе за Докшыцамі!*** Многія згадаюць і тры папулярныя трэнды: згушчонка, турма і самагон пушчанскі!

Натуральна, не ўсе жыхары Беларусі тут былі, ці, нават, міналі Глыбокае. Упэўнены, што не больш за пяць адсоткаў беларусаў, а то й менш, хоць раз наведалі наш горад. І калі вы сам, напрыклад, патрапілі ў Шклоў, то шта жыхары гэтага горада скажуць пра Глыбокае? Нічога! Нехта, усё ж, згадае: ***"У мяне там сусед сядзеў!"*** Для іншых Глыбокае – згушчонка з чыстай (не чарнобыльскай) тэрыторыі. Самагон пушчанскі? А вось пра яго і размова – ніжэй!

Пятнаццаць гадоў аўтар пражыў па-за межамі Беларусі, у Латвіі. Усе гэтыя глыбоцкія трэнды сцёрліся з памяці… Вярнуўся. Аж усё засталося на сваіх месцах!

Заходжу, неяк. у мінскую рэдакцыю Радыё Свабода, дзе мне абяцалі падараваць кнігі з аўтографамі аўтараў… Я ж не дацяміў, што за падарункі трэба і аддзячыць!

– ***Ну, і дзе, Валодзя, твая пушчанская?*** – хіба і жартам пытаюць журналісты.

– Дык няма ў Глыбокім фірмовай крамы з ліпаўскай самагонкай! Ладна, наступным разам, неяк, пастараюся ! – адказваю такім жа жартам.

Няхай, журналісты, на тое і журналісты, што ўсё ведаюць! Але, археолагі?

Тэлефануе з Мінска, гадоў 15 таму, знаёмы археолаг Людміла Дучыц. Маўляў, сама не магу, але мае калегі збіраюцца ў вандроўку ў Цэнтр Еўропы – дамажы арганізаваць начлег. – Не пытанне! Тэлефаную ў Івесь, замаўляю гатэль. Кошты, як ацанілі мінчукі, там смешныя, г.зн., дужа танныя! Паехаў і сам з імі да Івесі. (Дарэчы, гэта была іх 88-я вайдроўка па Беларусі!) Прыехалі, уладкаваліся… І ведаеце, якая была іх першая просьба? Не? – ***Дзе б здабыць пушчанскай гарэлкі?*** Мацы вашу за нагу – і так не слаба затарыліся ў Мінску – але, падай ім тут яшчэ і пушчанскую!

Вы думаеце, што традыцыі самагонаварэння на Глыбоччыне нарадзіліся "у цяжкое савецкае мінулае" і па інэрцыі дацягнулі да нашага часу? Ой, памыляецеся! Наш народны прадукт, яшчэ ў большых аб'ёмах, выраблялі і за "польскім часам"! У той самай Галубіцкай пушчы! Як сёння міліцыя, так і тады "паліцыя панствовая" дзічыла народных умельцаў!

Газета **"Kurjer Wileński"**, №253 за 1935 год, паведамляе:

"**Глыбокае. ПАТАЕМНЫЯ БРОВАРЫ.** У апошнія дні ў Дзісненскім павеце былі выкрытыя тры патаемныя бровары: У лясах Галубіцкай пушчы, каля засценка Вітаўка[1] супрацоўнікі паліцыі, патрулюючы ваколіцы, выкрылі патаемны бровар, які ўтрымлівалі браты Піскуновічы Іван і Серафім, жыхары вёскі Лялюшы Пліскай гміны.

Таксама ў вёсцы Вітаўка, выкрыты цэлы самагонны апарат разам з вялікай колькасцю брагі і гатовага самагону. Бровар утрымліваў Зянон Шыпка.

На гарачых слядах вырабу самагону схоплены Базыль Квачонак, жыхар калоніі Крывічаны Докшыцкай гміны. Увесь апарат быў канфіскаваны".

**Tajne gorzelnictwo w Wileńszczyźnie**

Wileński Sąd Okręgowy na sesji wyjazdowej w Głębokiem w czasie od 17 do 20 bm. rozpatrywał 111 spraw o przestępstwa z ustawy karno-skarbowej za potajemne gorzelnictwo. Winni zostali ukarani grzywnami w granicach od 250 zł. do 20.000 zł. z zamianą od 1 miesiąca do 2 lat więzienia. Czterech oskarżonych zaaresztowano po wydaniu wyroków skazujących i osadzono w więzieniu, gdyż ze względu na wysoki wymiar kary zachodziła obawa, iż będą się oni ukrywać. Dwóch świadków postawiono w stan oskarżenia za fałszywe zeznania.

Аб размаху самагонаварэння на Дзісеншчыне сведчаць судовыя працэсы. Газета **"Kurjer Wileński"**, №172 за 1936 год паведамляе:

"**Таемнае броварніцтва на Віленшчыне.**

Віленскі акруговы суд на выязной сесіі ў Глыбокім у часе з 17 да 20 бягучага месяца разглядаў 111 спраў у адпаведнасці з законам за злачынствы супраць карнаскарбовага[2] заканадаўства, за таемнае броварніцтва. Вінаватыя былі пакараныя штрафамі ад 250 злотых да 20.000 злотых, з заменай ад 1 месяца да 2 гадоў зняволення. Чатыры абвінавачаныя былі арыштаваныя пасля абвяшчэння пакаральных прысудаў і змешчаныя ў турму, бо было падазрэнне, што яны будуць хавацца з прычыны цяжкога пакарання. Двайм сведкам выстаўленыя абвінавачанні за фальшывае сведчанне".

111 спраў! Такі размах! Не тое, што сёння! Ды й, зрэшты, самагон тады масава прадукавалі па ўсім Дзісненскім[3] павеце. Канкуравала з Пліскай гмінай – Докшыцкая і Параф'янаўская!

**Głębokie**

— ZDEMASKOWANE GORZELNIE. Na terenie powiatu dziśnieńskiego wykryto kilka dobrze zakonspirowanych gorzelni samogonu. W Starych Turkach gminy parafjanowskiej, schwytano na gorącym uczynku pędzenia samogonki Jana i Zofję Mićków.

W Gnieździle złapano dwóch fabrykantów. Mianowicie w zabudowaniach Daniela Kolagi ujawniono przygotowany zacier i aparat do pędzenia samogonu. Pozatem na gorącym uczynku pędzenia samogonu przyłapano Nikifora Kowiela.

Wreszcie schwytano na gorącym uczynku Marję Najdzinowiczową w Targunach oraz braci Piotra i Juljana Krawczonków w Wiecierach, gminy dokszyckiej.

Aparaty zostały skonfiskowane i wraz z doniesieniem karnem przekazane Urzędowi Skarbowemu Akcyz i Monopolów Państwowych w Wilejce.

Згаданая вышэй нашая "абласная"[4] газета **"Kurjer Wileński"**, №302 за 1935 год, піша:

"**Глыбокае. Дэмаскаваныя бровары.** На тэрыторыі Дзісненскага павету выкрыта некалькі добра законспіраваных самагонаварных бровараў. У Старых Турках Параф'янаўскай гміны на гарачых слядах выгану самагона злавілі Івана і Соф'ю Міцькоў.

У Гняздзілаве схапілі двух фабрыкантаў. Менавіта, у будынках Данілы Калягі выяўлена прыгатаваная брага і апарат для выгану самагона. Затым на гарачым учынку выгану самагону злавілі Нікіфара Ковеля.

Нарэшце, у Таргунах схапілі на гарачым учынку Марыю Найдзіновіч, а таксама братоў Пятра і Юльяна Краўчонкаў у Вецярах Докшыцкай гміны.

Апараты былі сканфіскаваныя і разам з карным паведамленнем перададзеныя Ураду Скарбаваму Дзяржаўных Манаполій і Акцызаў у Вілейцы".

Агулам кажучы, ня соладка жылося простаму народу за "польскім часам". Выгнаў самагон – сеў, вырасціў тытунь на сваіх дзялках – сеў! Аднак, вернемся ў нашыя часы.

Пры такіх даўніх традыцыях, такой шырокай вядомасці на ўсю краіну нашай пушчаскай гарэлкі, сёння Глыбокае магло б моцна "падняцца эканамічна"! (Крыху – жарт!) Не, аўтар не ставіць на мэту папулярызаваць п'янства і спойваць няшчасны беларускі народ! Аўтар зыходзіць з таго, папершае: некаторая частка нашага грамадства – піла і будзе піць па любому, па-другое: наш пушчанскі самагон, аўтар, перадусім, разглядае, як сувенірны прадукт. Арыгінальная бутэлька, прыгожы цэтлік! Прыехалі турысты, паглядзелі Глыбокае і купілі "сувенір" з сабой, як папулярны мясцовы трэнд…



**Мабільны бровар у музеі самагонаварэння в. Наносы на беразе возера Нарач (Мядзельскі раён). З такім "мабільнікам", запрэжаным у каня, можна да канца жыцця гойсаць па Галубіцкай пушчы і быць няўлоўнымі, як для "паліцыі панствовай", так і для сённяшняй міліцыі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Тлумачэнні:**

**1.** Вітаўка адзначаная на мапах 1930-х гг у Галубіцкай пушчы, ля ракі Чысцянка, па дарозе на Ліпава.

**2.** У сённяшнім разуменні, верагодна, незаконнае прадпрымальніцтва, і расследаваннем такога злачынства займалася б фінансавая міліцыя.

**3.** Нагадаем для тых, хто, мо і не ведае – сталіцай Дзісненскага павету "за польскім часам" было Глыбокае. Павятовая ўправа (староства) – той самы будынак (былы кляштар), што сёння ад паўднёвага захаду прылягае да царквы.

Палякі пакінулі гістарычы назоў павету, але сталіцу перанеслі з Дзісны ў Глыбокае. Гміна хоць і адпавядае цяперашняму сэнсу – сельсавет, але "за польскім часам" гміна па плошчы складала 2-3 цяперашніх сельсаветы. Яскравы прыклад – Дзісненскі павет, які па стану на 1.01.1930 г складаўся з 13 гмінаў: Докшыцкая, Глыбоцкая, Германавіцкая, Галубіцкая, Язненская, Лужэцкая, Мікалаеўская, Параф'янаўская, Пліская, Празароцкая, Шаркоўшчынская, Залеская. У павеце тры населеныя пункты насілі статус горада: Глыбокае, Докшыцы, Дзісна.

**4.** Дзісненскі павет уваходзіў у Віленскае ваяводства. Нашу старажытную сталіцу ў кастрычніку 1939 года Сталін падараваў жамойтам за згоду размясціць на іх тэрыторыі савецкія вайсковыя базы. Яны ператалумачылі Вільню на Вільнюс і зрабілі яе сваёй сталіцай…

# У Беларусі на 1000 мужчын прыпадае 1149 жанчын

**У Беларусі на 1000 мужчын прыпадае 1149 жанчын, у гарадах – 1167, у вёсцы – 1086. Такія дадзеныя агучыла на прэс-канферэнцыі сустаршыня ГА «Беларускі саюз жанчын» Антаніна Морава.**

Антаніна Морава апісала сярэднестатыстычны партрэт беларускай жанчыны. На пачатак бягучага года ў краіне налічвалася 5,1 млн. жанчын – 53,5% агульнай колькасці насельніцтва. У гарадах і пасёлках гарадскога тыпу пражываюць большасць жанчын (78,2%), у сельскіх населеных пунктах – кожная пятая жыхарка рэспублікі (21,8%). У апошнія гады назіраецца павелічэнне ўдзельнай вагі жанчын у гарадскіх паселішчах.

Сярэдні ўзрост жанчын у Беларусі – 42,4 года (пяць гадоў таму было 41,7 года). Прычым, сярэднестатыстычная жанчына на 5,2 года старэйшая за мужчыну. Сярэдні ўзрост жыхарак гарадоў складае 40,9 года, сяльчанак – 47,7 года.

Кожная другая жанчына (52%) знаходзіцца ў шлюбе, 18% – удовы, 10% – разведзеныя.

У Беларусі павялічваецца сярэдні ўзрост жанчыны пры ўступленні ў першы шлюб і нараджэнні першынца. У 2015 годзе сярэдні ўзрост нявесты склаў 25,5 года (у 2010-м – 24,4 года). Да 26 гадоў павялічыўся ўзрост маці пры нараджэнні першага дзіцяці.

«У апошнія гады намецілася шэраг станоўчых тэндэнцый у сямейных адносінах, – адзначыла Антаніна Морава. – Больш як палавіна нованароджаных у мінулым годзе нарадзіліся другімі і трэцімі ў сваіх сем'ях (у 2010-м – 44,7%). Адна гарадская і адна сельская жанчына, у сярэднім нарадзілі па двое дзяцей (раней на гараджанак прыпадала адно дзіця). Удзельная вага дзяцей, народжаных у жанчын, якія не знаходзяцца ў зарэгістраваным шлюбе, знізілася з 19,6% у 2010 годзе да 13,8% у 2015-м».

*БелТА.*

ГОД КУЛЬТУРЫ

# Каўшэлеўскі Дом фальклору

*...Людзі, вы будзеце таленавітыя...*
*Ул. Караткевіч*

**2016 год абвешчаны ў нашай краіне Годам культуры. Гэта важная сфера, якая з'яўляецца паказнікам развіцця грамадства і асновай ідэалогіі дзяржавы.**



■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

Культура – паняцце шырокае: духоўная і мастацкая, культура вытворчасці і земляробства, культура грамадскіх і сямейных адносін і побыту, культура ўладкавання населеных пунктаў ды іншая. Акрамя агульначалавечай культуры, вызначаецца культура кожнага народа – нацыянальная, якую найбольш яскрава і выразна прадстаўляе мастацкая культура. Выток яе – народная крыніца: вусная народная творчасць (песні, паданні, казкі, байкі, загадкі, прымаўкі, народны гумар), абрады, народныя традыцыі, звычаі, танцы. Гэта тая частка культуры, якую мы называем фальклорам. Ён – падмурак і спадчына нацыянальнай культуры, стваральнік і носьбіт якой – народ, дзякуючы роднай мове, самабытнай, ласкавай, мілагучнай, "мяккай, пявучай, як ручаіна, як голас птушкі ў росных хмызах, гнуткай і цвёрдай адначасова..." (Ул. Караткевіч "Каласы пад сярпом тваім").

Менавіта пра культурную ўстанову, дзейнасць якой цалкам звязана з фальклорам, удзельнікаў творчага калектыву і кіраўнікоў гэты нарыс. Але пачаць яго хочацца ўрыўкам з рамана Ул. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". Адзін з герояў рамана Алесь Загорскі, сябра Кастуся Каліноўскага, узгадвае прытчу пра таленавітасць, глыбокую духоўнасць, самабытнасць беларускага народа:

"Бог дзяліў між народамі землі. Адным – тое, другім – тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану Богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: "Рэкі вам даю поўныя, пушчы нямераныя, азёры нялічаныя. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці – дужыя, сады – багатыя, грыбоў ды ягад – заваліся. Людзі вы будзеце таленавітыя..."

Мне падаецца, што апошні сказ у поўнай меры можна аднесці да таленавітых людзей, якімі вельмі багаты Шаркоўшчынскі край. Сярод іх асобна вылучаецца Надзея Іванаўна Вайцюль, загадчыца Каўшэлеўскага Дома фальклору, і вялікі творчы калектыў, які яна стварыла і працуе з ім доўгія гады.

Я пазнаёмілася з Надзеяй у мінулым годзе на свяце, якое штогод ладзіцца на радзіме знакамітага садавода-селекцыянера І.П.Сікоры ў Малых Алашках. Прывабная, маладая яшчэ, стройная жанчына. Ветлівая, гаваркая, зацікаўленая ўсім, вельмі рухавая, усмешлівая. Пазітыўная энергетыка, асаблівая харызма гэтай жанчыны прыцягвала. Пра яе працу ведала мала, але зразумела, што гэта няўрымслівы, адказны, адданы сваёй справе і таленавіты чалавек. Перабірала ў памяці імёны знакамітых землякоў.

Адкуль бяруцца таленты? Надзея Вайцюль нарадзілася ў вёсцы Вішнявец, аточанай лясамі, балотамі, бліжэй да Мёршчыны. Багатая прырода роднага краю, прыклад сям'і, у якой панаваў лад і захоўваліся народныя традыцыі, паўплывалі на фарміраванне яе як творчай асобы. Карані яна мае сялянскія, а гэта значыць, што яе продкі былі сам-насам з прыродай: лесам, лугам, полем, на якім трэба было цяжка працаваць, каб выжыць, усе спадзяванні толькі на сябе. Прыроднае асяроддзе, уклад жыцця фарміравалі духоўнасць чалавека, мудрасць і кемлівасць, імкненне дайсці розумам да ўсяго самастойна і зберагаць дадзенае продкамі, уменне працаваць плённа. Вось адкуль Іван Сікора, Міхась Машара, Павел Дубашынскі, Генадзь Цітовіч; сучаснікі Вячаслаў Бука, знакаміты вучоны Віктар Крук, мастак, "світанкаўцы"-паэты Віктар Лагун, Міледзій Кукуць, Кацярына Сосна і многія іншыя.

Надзея Вайцюль скончыла Мінскі інстытут культуры ў 1985 годзе па спецыяльнасці метадыст культурна-асветніцкай работы. Спачатку працавала мастацкім кіраўніком у Ручайскім СДК, у 1989 годзе атрымала пасаду загадчыцы Каўшэлеўскага СДК, які ў 2010 годзе быў перайменаваны ў Дом фальклору з установаўкай адраджэння нацыянальнай спадчыны: абрадаў, традыцый, звычаяў рэгіёну.

Дагэтуль яна стварыла калектыў "Купалінка", які ў 1999 годзе атрымаў званне народнага калектыву Каўшэлеўскага Дома фальклору. Цяпер "Купалінка" налічвае васямнаццаць удзельнікаў рознага ўзросту: самым сталым – па 75 гадоў, цікава, што ў калектыве ёсць таленавіты скрыпач, у якога скрыпка, купленая яшчэ ягоным бацькам у пана за "злотыя", плача, па выразу слухачоў. Генадзю Адамёнку ўжо 92 гады, і пачуць яго скрыпку даводзіцца рэдка, вядома.

Творчая дзейнасць народнага калектыву "Купалінка" – разнастайная і шырокая ў геаграфічным сэнсе: шматлікія ўдзелы ў рэгіянальных, абласных, рэспубліканскіх конкурсах-аглядах, фестывалях, тэлепраектах з паказам абрадаў, народных танцаў сваёй мясцовасці, песеннага фальклору, куды ўваходзяць калядныя, велікодныя, траецкія, купальскія песні, якія спявалі ў дадзенай мясцовасці. Вельмі цікава паказаны абрады "Завіванне вянкоў" з кумаваннем на Тройцу, "Палатняная талака" – замачвалі ў попеле шэрае ільняное палатно, адбівалі пранікам, паласкалі, адбельвалі на сонцы.



Надзея Вайцюль *(другая справа)* выступае са сваім калектывам на творчай вечарыне Людмілы Ардынскай. *Фота Змітра Лупача*

"Жаніцьба Цярэшкі", "Маёўкі" на вясновага Міколу, калі "не мычаць кароўкі, а ў кішэні сторублёўка", "Катанне бабы на хрэсьбінах", "Багач", "Пасядзелкі на Пакровы", розныя вясельныя абрады, нават стараверскія з карагодамі (у мясцовасці спрадвеку жылі стараверы) – усяго не пералічыш.

Надзея Вайцюль – вельмі ўмелы арганізатар, знаходзіць падыход да старога, маладога і дзіцяці, бо ў наш час вельмі цяжка арганізаваць людзей не толькі ўдзельнічаць у мерапрыемствах, але і прыйсці паглядзець гатовую цікавую праграму. Як спецыяліст сваёй справы, працуе напоўніцу, аддаючы свой талент, веды, вопыт людзям, якія маюць цікавасць да сваёй спадчыны.

Народны калектыў "Купалінка" ўзнагароджаны шматлікімі дыпломамі розных гадоў, пачынаючы з 1994 года, калі адбыўся Першы Міжнародны фестываль народных калектываў у Пінску. Мае званне Лаўрэата розных ступеняў за ўдзел у фестывалях "Звіняць цымбалы" ў Паставах (1998г.), на святкаванні Дня беларускага пісьменства (2006г), мінулагоднім "Славянскім базары" ды іншых.

Пры Доме фальклору існуе дзіцячы калектыў "Шчадроўка", ён налічвае дванаццаць удзельнікаў. Вельмі каштоўна пачынаць вучыць любіць і ведаць сваё роднае ў дзіцячым узросце. Дзеці ўдзельнічаюць у абрадах "Валачобнікі", "Гуканне вясны", "Багач", калі ўсё ўбрана з поля, пасеяны азімыя. Вараць клёцкі з "душамі" на "Саракі", кладуць таксама ў іх "сюрпрызы" (арэх), хто з'есць клёцку з сюрпрызам, будзе шчаслівы. Па-мясцоваму, клёцкі называюцца "галёпы". У іншых мясцовасцях выпякаюць "жаўраначкі", абавязкова сорак – па ліку прылятаючых у гэты дзень птушак. Мяне вельмі ўзрадавала, што народнай творчасці вучаць, прывіваюць любоў да яе дзяцей яшчэ больш ранняга ўзросту. Ядзвіга Уладзіміраўна Туронак, мастацкі кіраўнік Дома фальклору, у дзіцячым садку вёскі Каўшэлева знаёміць дзетак з шумавымі народнымі інструментамі, што ім больш даступна: бубнам, драбінкамі, рагаткамі, лыжкамі, свістулькамі, трашчоткамі.

Удзельнікі "Купалінкі" выкарыстоўваюць народныя інструменты: званочкі (шумёлы), трашчоткі, бубен, валак і качалку, у калектыве – два баяны, якімі па-майстэрску валодаюць Ядзвіга Туронак і Леанід Адамёнак – "якая ж песня без баяна?" Нарэдчас грае вышэй названая скрыпачка.

У мінулым 2015 годзе калектыў "Купалінка" паспяхова выступіў на аглядзе-конкурсе самабытных вясельных абрадаў Віцебшчыны "Вялікая вясельніца" ў Дуброўне. За традыцыйны для нашага рэгіёну абрад "Паненскі вечар" журы прысудзіла калектыву трэцяе месца.

Абласны турнір беларускіх танцаў 2015г у Браславе, "Славянскі базар" у Віцебску з гульнёвай праграмай "Вясёлкавы карагод", "Яблычны фэст" у Малых Алашках – досыць няпоўны спіс удзелу "Купалінкі" у розных імпрэзах 2015г, вядома, – поспех. Незаслужана прапускаць імёны тых, хто стварае прызнанне калектыву сярод дзевяці народных і "ўзорных" калектываў Шаркоўшчынскага раёна: Лідзія Верашчака, Раіса Заяц, Антон Дабравольскі, Леанід Адамёнак, Марыя Бяспальчык, Эвеліна Язёнак, Алена Суфіновіч, Ядзвіга Туронак і многія іншыя.

Надзея Вайцюль, як кіраўнік, у штодзённым пошуку, у яе – новыя задумкі, планы, мары. Мне хочацца адкрыць новую старонку яе таленту: яна піша цудоўныя вершы, прасякнутыя любоўю да роднага краю, да сваёй вёскі і бацькоўскай зямлі, да жыцця, у якім яна пакідае свой след: зберагае і папулярызуе культурную спадчыну продкаў, за якую мы ўсе павінны несці адказнасць перад нашчадкамі:

*Жыццё люблю, ім не магу*
*напіцца,*
*Нібы спатолай мне яно ў*
*гарачыню.*
*Я прагна п'ю жыцця майго*
*вадзіцу,*
*Да скону дзён напіцца не*
*змагу.*



Гурт "Купалінка" на сцэне Дома культуры ў Радзюках. *Фота Змітра Лупача*

***Надзея Вайцюль***

## Урыўкі з вершаў

Я помню кожную травінку
Каля бацькоўскага жытла.
Заве сюды, дзе б ні была,
Бо тут душы маёй часцінка.
***
І як жа не дзівіцца мне пралескам?
І жыту спеўнаму, і песням жаўрука,
Прыгожанькай бярозцы на ўзлеску
І хваляў плёскату, якіх нясе рака?
***
З бясхлебіцай можна змірыцца,
Нішчымніцу я пацярплю.
Без той жыватворнай крыніцы ж
Пражыць я ўжо не змагу.
***
За лясамі, густымі барамі,
Уздоўж краю пясчанага ўзлеску,
Абабітага злымі вятрамі,
Дзе на Мёры ідзе "жалезка",
Людзі вёску здаўна заснавалі,
Каўшалямі спачатку назвалі.

# Абмежаванні на лоўлю рыбы


Фота sb.by

**З надыходам сакавіка для рыбаловаў-аматараў уступілі ў дзеянні і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, дакладней, на вылаў асобных відаў рыбы і водных жывёл.**

■ **Аляксей Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Згодна Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўлю асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама на выкарыстанне асобных прыладаў і (або) спосабаў рыбалоўства. Лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца ў Віцебскай вобласці з 10 красавіка па 8 чэрвеня, у Мінскай, Магілёўскай і Гродненскай абласцях з 1 красавіка па 30 траўня, у Брэсцкай і Гомельскай абласцях з 20 сакавіка па 18 траўня, за выключэннем аматарскага рыбалоўства, якое ажыццяўляецца адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, або падвойным, або трайным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, са штучных збудаванняў.

Акрамя названых забаронаў Правілы прадугледжваюць ўвядзенне забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так:

■ **Віцебская вобласць** забарона на лоўлю шчупака звычайнага надыходзіць **з 9 сакавіка да 25 красавіка ўключна**.

■ **Лоўля судака забаронена з 15 красавіка па 30 мая**

■ **Лоўлю сома звычайнага забаронена з 31 мая па 1 ліпеня ўключна.**

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях у перыяд забароны, з асобінамі шчупака будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры **ад 20 да 50 базавых велічынь**, а шкода за вылаўленую рыбу будзе разлічвацца ў 3-х кратным памеры або 1 **млн. 890 тысяч** за адну асобіну шчупака. У выпадку, калі сума нанесенай шкоды будзе перавышаць 100 базавых велічынь у дачыненні да парушальніка завядуць **крымінальную справу па арт. 281 Крымінальнага Кодэкса РБ**.

Ніякага прадаўжэння лоўлі шчупака ў бягучым годзе няма, забарона з 9 сакавіка, таму ўсім рыбаловам неабходна карыстацца законам, а не чуткамі аб працягу тэрміну лоўлі шчупака.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў перыяд наступлення вясновых забаронаў і абмежаванняў дзейнічаюць у поўным аб'ёме і праца за іх выкананнем толькі ўзмацняецца.

Таму, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі звяртаюцца да рыбаловаў-аматараў не спакушаць свой лёс і не парушаць Правілы рыбалоўства, таксама рыбаловам неабходна звяртаць увагу на лядовае пакрыццё вадаёмаў. У сувязі з насталай адлігай, лёд на многіх вадаёмах становіцца танчэйшым, асабліва, на праточных азёрах, і невыкананне мер бяспекі можа прывесці да трагедыі.

Вельмі часта пасля рыбалкі на лёдзе застаецца шмат смецця, пустых бутэлек, паперы, пачкаў ад цыгарэт, недакуркаў ад цыгарэт, усё гэта ёсць нішто іншае, як забруджванне лядовага покрыва і цягне штраф у памеры да 20 базавых велічынь. Толькі за перыяд з 1 па 7 сакавіка 2016 года супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі складзена 3 адміністрацыйныя пратаколы за забруджванне лёду і больш за 10 грамадзян папярэджаныя. Паважаныя аматары рыбалкі, будзьце, калі ласка, гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і знаходзячыся на прыродзе, захоўвайце чысціню нашых прыгожых вадаёмаў, лясоў.

**Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 або маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

Кіраўнік МУС Шуневіч:

## Міліцыянер не можа адказваць хамствам на хамства

**Дадзеныя статыстыкі пра тое, што 67% беларусаў давяраюць міліцыі, а 33% не давяраюць, пракаментаваў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч у інтэрв'ю прграме «Контуры» тэлеканала ОНТ, паказанай увечары 6 сакавіка.**

Як адзначыў кіраўнік МУС, міліцыя, з аднаго боку, «ратуе, абараняе, ахоўвае», з іншага – «спыняе, забараняе і карае». «Натуральна, што тыя грамадзяне, якія сутыкаюцца з другой часткай гэтай дзейнасці, наўрад ці змогуць станоўча ацаніць яе, нават выходзячы са свайго ўнутранага суб'ектыўнага ўяўлення... Тут застаецца пэўны асадак. Разумею гэта на побытавым узроўні», – сказаў Шуневіч.

Ён лічыць, што «трэба пазбягаць іншага: непрафесіяналізму, неадукаванасці, хамства». «Міліцыянер не можа ісці за сваімі пачуццямі і адказваць хамствам на хамства. Міліцыянер не можа сваё ўнутранае, суб'ектыўнае стаўленне перакладаць на тую працу, якую ён робіць, і на таго аб'екта, на якога накіравана гэта праца. Правапарушальнік - гэта не законапаслухмяны грамадзянін», – падкрэсліў кіраўнік МУС.

«Мы лічым, што ёсць два кірункі, па якіх трэба працаваць. Першае – гэта раскрыццё злачынстваў. Другое – павышэнне прафесійнага, культурнага, інтэлектуальнага ўзроўню нашых супрацоўнікаў.

*Вячаслаў Будкевіч*, *БелаПАН*



# Прафілактыка іерсініёзаў

**Іерсініёз – гэта агульнае для людзей і жывёл інфекцыйнае захворванне з вялікай разнастайнасцю клінічных праяў. Працякае ў форме кішачнага іерсініёзу і псеўдатуберкулезу.**

■ **Л. Козел**, *загадчык аддзела эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

Узбуджальнікамі іерсініёзаў з'яўляюцца мікраарганізмы (іерсініі), якія шырока распаўсюджаныя ў прыродзе. У натуральных умовах іерсініі паразітуюць у папуляцыі розных жывёл і птушак (зайцы, грызуны, вавёркі, дзікі, хатнія свінні, куры і інш.). Заражэнне жывёл адбываецца пры гадаванні іх заражанымі кармамі і выкарыстанні вады з забруджаных крыніц. З арганізма жывёл узбуджальнікі выдзяляюцца разам са спаражненнямі і мачой.

Устаноўлена, што іерсініі ў знешнім асяроддзі, пры дастатковай колькасці вільгаці, валодаюць высокай устойлівасцю, асабліва пры тэмпературы +15–+20ºС. Пры гэтай тэмпературы яны добра множацца на харчовых прадуктах. Ва ўмовах халадзільніка (пры тэмпературы +4–+6ºС) бактэрыі таксама здольныя доўга захоўвацца і размнажацца на харчовых прадуктах. Іерсініі вельмі ўстойлівыя да замарожвання і адтайвання, здольныя доўга захоўвацца ў глебе (да 4 месяцаў) і вадзе (ад месяца і больш). Пры награванні да 60–80ºС бактэрыі выжываюць на працягу 15–20 хвілін, пры кіпячэнні гінуць праз 30–40 секунд.

Заражэнне чалавека адбываецца пры ўжыванні інфіцыраваных харчовых прадуктаў, у якіх узбуджальнікі назапашваюцца, асабліва ў сырой гародніне, малацэ, мясных прадуктах, недастаткова тэрмічна апрацаваных. Заражэнне чалавека магчыма таксама праз ваду, забруджаную выдзяленнямі жывёл, хворых іерсініёзам. Найбольш часта чалавек заражаецца ў вясенне-летні перыяд часу пры ўжыванні салатаў з гародніны, што захоўваліся ў даступных для грызуноў месцах.

Захворванне іерсініёзамі рэгіструецца паўсюдна. Клінічныя праявы іх разнастайныя. Інкубацыйны перыяд (перыяд ад моманту заражэння да з'яўлення першых клінічных прыкмет) можа доўжыцца ад 1-га да 18 дзён. Хвароба пачынаецца востра. З'яўляюцца інтэнсіўныя, прыступаабразныя болі ў жываце, галаўны боль, галавакружэнне.



Тэмпература цела павышаецца да 38–39ºС. Далей з'яўляюцца млоснасць, ваніты, праблемы са страўнікам, высыпанні на скуры, павялічваюцца перыферычныя лімфатычныя вузлы. У цяжкіх выпадках іерсініёзы ўскладняюцца гепатытам, паражэннем суставаў, сэпсісам.

Для папярэджання захворвання іерсініёзам неабходна выконваць наступныя меры прафілактыкі:

■ ужываць ваду толькі гарантаванай якасці;

■ рэгулярна (перад кожнай загрузкай) праводзіць поўную ачыстку агароднінасховішчаў, агароднінных камер халадзільнікаў і іншых месцаў захоўвання гародніны з наступным пабелам памяшканняў;

■ гародніну захоўваць асобна ад садавіны, ягад і іншых прадуктаў;

■ праводзіць дбайны адбор, мыццё, ачыстку і абліванне кіпенем гародніны, садавіны і ягад, якія ідуць на прыгатаванне салатаў і іншых страў, якія ўжываюцца без тэрмічнай апрацоўкі;

■ не дапускаць працяглага захоўвання ачышчанай агародніны ў халоднай вадзе ці ў халадзільніках (не больш за 1,5 гадзіны);

■ салаты варта запраўляць непасрэдна перад падачай і прымаць у ежу толькі ў свежапрыгатаваным выглядзе;

■ гатовыя стравы захоўваць асобна ад сырых прадуктаў;

■ ажыццяўляць мерапрыемствы па абароне памяшканняў і прылеглай тэрыторыі ад пранікнення грызуноў, праводзіць своечасовае іх знішчэнне.

